**(НЕ:)вясёлыя карцінкі.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). —
Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014. — 64 с. іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *ДэЛёс*
Паэт *ДаСьлёз*
Укладальнік *Аляксей Знаткевіч*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

(НЕ:)вясёлыя карцінкі — іранічныя ілюстрацыі падзеяў у Беларусі, якія штодня зьяўляюцца на сайце svaboda.org, каб парадаваць добрых людзей, засмуціць злых і ўратаваць усіх ад нуды. Кнігу складаюць выбраныя малюнкі і натхнёныя імі альбомныя вершы.


FOL

ISBN 978-0-929849-69-0

# Жыве musculus zygomaticus major!



Мы, Бібліятэка Свабоды,

– прызнаючы, што радасьці, задавальненьня і шчасьця не бывае зашмат,

– адзначаючы, што прыматолягі адносяць пачатак усьмешкі на 30 мільёнаў гадоў назад,

– бяручы пад увагу, што musculus zygomaticus major, адказны за падцягваньне вугалкоў губ уверх і ў бакі, скарачаецца ў Беларусі ня так часта, як хацелася б,

– дапускаючы, што гэта выклікана ня толькі пераменлівым надвор'ем, працай грамадзкага транспарту, мясцовай дыетай і адсутнасьцю выхаду да мора,

– канстатуючы, што суседзяў і начальства не выбіраюць, а даюцца яны за грахі нашы,

– маючы на мэце узьняць усё, што апускаецца, пашырыць усё, што звужаецца, павялічыць усё, што памяншаецца, а таксама ўзмацніць, паглыбіць і палепшыць усё астатняе, бо мы за мір,

Пастанаўляем:

– неадкладна падвысіць тонус musculus zygomaticus major зьлева, дзеля чаго выбраць зь дзьвюх тысячаў карцінак на сайце svaboda.org такія, ад якіх гэты мускул пачне скарачацца-расьцягацца аж да левага вуха,

– неадкладна падвысіць тонус musculus zygomaticus major справа, дзеля чаго напісаць вершы такія, ад якіх гэты мускул пачне скарачацца-расьцягацца аж да правага вуха,

– ускласьці выкананьне гэтай пастановы на візуальнага фітнэс-трэнера ДэЛёс і аральнага фітнэс-трэнера ДаСьлёз,

– дзеля папярэджаньня масавых вывіхаў сківіцы ў наступныя 30 мільёнаў гадоў, абмежаваць колькасьць асобнікаў альбома, але нічым не абмяжоўваць яго аўтараў, рэдактараў, выдаўцоў, чытачоў і гледачоў.

І будзе нам тое, чаго не бывае зашмат.

*За Бібліятэку Свабоды*
*Аляксандар Лукашук*

# Сук

Партызаны – спрэс мае землякі:
большасьць ціха сядзіць і ня тупае.
Але ёсьць адзін вычварэнец, які
рубіць сук пад уласнай дупаю.

“Вось загадка”, – сказаў прафэсар з Масквы,
а за ім і прафэсар з Варшавы.
Хто яму дазволіў? Хто даў правы?
На карысьць якое дзяржавы?

“Ён сячэ, – мяркуе прафэсар з Масквы, –
бо прывык, ды няма пад рукой галавы,
і, каб форму трымаць, рубіць суччa:
і прыгожа – і не балюча!”

А прафэсар з Варшавы ў адказ: “Гэта жэст,
а ня пошук прыгодаў на попу.
Ён сякерай сваёй выражае пратэст,
бо на плаху гатоў за Эўропу!”

Думка з думкай вяла навуковы бой –
і ніяк не перамагала.
Ну, навошта ён рубіць сук пад сабой?
Можа, дроваў няма для мангала?

Можа, для маскіроўкі? Пакуль ён сячэ,
дубалом са шчытом і гумаю
не паверыць ніколі, што ён яшчэ
самастойныя думкі думае.

Можа, лёсы краіны ў ягоных руках?
Ён наперад так рухае нацыю,
бо сядзеньне ўвесь час на тых самых суках
азначае застой і стагнацыю!

Адказаў беларус ім: “Я мірны дзед,
не хачу ні ў Расею, ні ў НАТА…
Я б адцяпаў сук, на якім сусед,
ды сякера кароткая надта”.

# Бясконцы тупік

Не хапае грошай на бэнзын!
Добра, скарыстаю сынаў ровар.
Сын яшчэ сьмяецца, суччын сын!
Што ўратуе нэрвы? Толькі бровар!

Выпіў піва літар, потым два.
Потым пляшку з паленай гарэлкай.
Закусіў кавалкам рукава.
Апрытомнеў зраніцы пад елкай.

Сябрука прашу: “Дапамажы!
Дзьве па сто – і душанька ў спакоі.
Заўтра ж гнаць машыну з-за мяжы…”
Глянуў у кішэнь, а там – такое!

Не хапае грошай на бэнзын!
Добра, скарыстаю сынаў ровар.
Сын яшчэ сьмяецца, суччын сын!
Што ўратуе нэрвы? Толькі бровар! і г.д.

# Жучкі

Сёньня выдаўся дзень цяжкі.
Я ў кватэры шукаў жучкі.
Можа, іх схавалі на кухні,
дзе сьпяваў я: “Мур хутка рухне”?
Ці пад коўдрай, дзе ў час зімовы
палітычныя вёў размовы?
І на лесьвічнай клетцы ёсьць:
там курыў не адзін мой госьць,
а адзін мысьляр у законе
парушаў цішыню на балконе…
Цэлы дзень я змагаўся з жучком.
У клазэце шукаў, за бачком.
І ніжэй ад бачка, у трубе:
хто іх знае, усё ж – кадэбэ!

Тут званок. Рандэву зь сяброўкай.
Бачу, кліпсы з божай кароўкай,
а багоўка – жучок! Я на жэсты
перайшоў. Больш няма нявесты.

Не знайшоў жучка – мэа кульпа!
Трэба ехаць на вёску: бульба.
Прыяжджаю, а там ужо оргія
з паласатай стужкай Георгія.

Два ў адным: жучок-каларад.
Зараз будзе ўсім вам парад!
Каго ботам, каго хімікатам…
Незалежнасьць, браце! Са сьвятам!








- ГАЛОЎНАЕ, КАБ ПАРАДАК БЫЎ...


ПАЛІТВЯЗЕНЬ






НА ГЭТЫМ МЕСЦЫ МОГ БЫЦЬ
СЬМЕШНЫ МАЛЮНАК
АБ НОВЫХ ПАЎНАМОЦТВАХ КДБ,
КАЛІ Б МАСТАКУ НЕ БЫЛО СТРАШНА
АД МАГЧЫМЫХ НАСТУПСТВАЎ...

# Каб ня ўмёрлі!

Я рэшаю праблемы ўсех чэсных людзей:
прастытуцыя, сьпід, наркаманія…
Толька жэншчыны рэдка ражают дзяцей,
в этам нет ешчо ў нас паніманія!

Вы ражайце, міліцыя знойдзе атцоў!
Мы зарплаты чуць-чуць ім павысім.
Ведзь чэм большэ у арміі нашай байцоў,
цем рэальней народ незавісім!

Мнагадзетным падарым ключы ат кварцір
і паможам ва ўсём жэстачайшэ:
будзет дзецям плашчадка, качалка і цір,
но ражайце, ражайце пачашчэ!

Дам дэкрэт вам на сколька паложана дней:
пасядзелі, радзілі – і баста.
Патаму што бяз жэншчын гаразда трудней,
палучаецца очэнь нячаста.

Мала ўрэмені, нада зьбіраць уражай,
сколька можна цянуць гаварыльню?
Я прашу яё: “Жэншчына! Дзетак ражай!”
А яна за пакупкамі ў Вільню!

Разрываецца сэрца… І горла, і рот –
хто жа выдзержыт эту нагрузку?
Рускім вам языком, што народ наш умрот!..

Можа, выступіць па-беларуску?

# Знак якасьці

“Беларус – як рускі, ды са знакам якасьці”, –
хтосьці кажа. Але розьніца якая?
Беларус тэарэтычна ўмее якаць ці,
скажам, акаць. Рускі вып’е ды ікае.

Рускі вып’е і ня дасьць суседу спуску:
можа выспу адкусіць на павароце.
Беларусу ж размаўляць па-беларуску
вельмі цяжка, бо знак якасьці – у роце.


БЕЛА
РУСКІ




- КУ- КУ
RU
BY


- НІХТО НЯ ХОЧА ЦЯБЕ АТРУЦІЦЬ...
ПРОСТА ПАСПРАБУЙ НА ЯЗЫК
БЕЛАРУСКАЯ
МОВА

# Інфляцыя

Бабуля хавае ад дзеда ў шкарпэтках майно,
а заўтра на гэтыя грошы ня купіць шкарпэткі.
І дзед-нарпаэт, які зь вершамі лоўка й даўно,
бяднейшы цяпер за касьцельную мыш – мышы сьведкі!

Суседцы пазычыў на хлеб, шакалад і кефір.
Да крамы дайшла – на паўхлеба і паўшакаладкі.
Назаўтра вярнула. Купюра цяпер сувэнір,
якім карыстаесься ў якасьці кніжнай закладкі.

Разгортваеш кніжку і помніш выдатна: быў верш,
а сядзеш чытаць – на паўверша яго засталося,
і сёньняшніх геніяў макулатурай завеш,
і даўніх, што з нашае нівы зьбіралі калосьсе.

На дзевяць красунь, па статыстыцы, дзесяць пачвар:
каму не пашчасьціла, рыфмаю нацыю мацае.
Хутчэй гэта ўсё дапісаць, каб увесь ганарар –
на стос новых кніг. Ці праесьці… хутчэй за інфляцыю.

# Назіральнік

Хутка выбары – сьвята ў нашым жыцьці,
і на злосьць усім *опам* сабачым
яны мусяць чэсна, празрыста прайсьці,
так *празрыста*, што мы й не пабачым.

Ды сусед мой, доктар, зь якім штодзень
пад навіны БТ гаворым,
кажа так мне:
– Калі далі бюлетэнь,
значыць, лічаць сур’ёзна хворым.

Я кажу суседу:
– Ня тыя часы!
Мы жывем не пад хунтай у Чылі.
Палічылі, што трэба лічыць галасы –
значыць, правільна палічылі!

Лепш паслухай, як я на Кіпры
Ледзь ня трапіў на *іхныя* выбары:

Агаляю жывот і сьпінку,
Бо аб сонечнай марыў ваньне…
Раптам бачу на пляжы – кабінку:
Не іначай, для галасаваньня.

Я туды, а там – мамзэль без адзеньня,
Мабыць, з выбарчае камісіі.
Я пытаю: “Ці ты даеш бюлетэні?”
А яна, не даслухаўшы пра бюлетэні,
Мокрым станікам мне па пысе!

Назіраньне – справа пачэсная,
А яна мне па твары купальнікам.
Я ж хацеў, каб было па-чэснаму…
Не, ня буду больш назіральнікам!

# Назад у СССР

Па тэлевізары цалуецца генсек,
а зранку ён жа ў чорнай рамцы на партрэце.
На фізкультуры практыкантка на пяць сек
пакажа грудзі: хай парадуюцца дзеці.

Беларусіца зноў паклалася ў дурдом,
настаўнік працы зноў давёў яе да ручкі.
Дырэктар кажа пра гамору і садом,
пра тых дваіх і пра паводзіны фізручкі.

Сусед малодшую калоціць за аборт,
бо футбаліст-жаніх ізноў дынаміць Сьвету,
а я спускаюся купіць “Савецкі спорт”
і для бацькоў “Літаратурную газэту”.

Заалагіца пра жыцьцё хрушчоў вярзе,
настаўнік сьпеваў апявае Джугашвілі,
а мы ўсё ціскаем фізручку па чарзе…
Якую ўсё-такі краіну развалілі!

# З калень

Рабочыя і сяляне
клянуцца ўночы і ўдзень:
“Расея з калень устане!
Расея ўстане з калень!”

Фанат, што ў бары заўзее,
хоць зборная – рэдкая дрэнь,
упэўнены, што Расея
павінная ўстаць з калень!

Тунгус, калмык і славяне,
курцы, наркоты і п’янь
хвалююцца, што ня ўстане:
“Каму, блін, кажуць, устань!”

Матрошка й мядзьведзь у цырку,
какошнік і каравай!
Прадай апошнюю нырку,
але з калень уставай!

Устань, як рубам пытаньне!
Устань, як кол у штанах!
Яна, безумоўна, устане,
і ворагі пойдуць нах.

Устане зь дзяржаўным гімнам,
бы ўзімку Волга-рака…
Устане з калень усім нам
вядомага мужыка.

У соплях, памадзе і енках,
зь пякоткай, з крыкам “банзай”…
Сядзець на такіх каленках –
агідна! Скорей слезай!

# Суседзі

Прапаганда, вядома,
б'е па чужых і сваіх.
Толькі выходжу з дома,
бачу гэтых дваіх.

Дзед-сусед і суседаў
нейкі далёкі сваяк.
Я думаў, што добра іх ведаў.
Выходзіць, ня ведаў ніяк.

П'юць, як заўжды, чарніла,
гутараць пра футбол.
Раптам сваяк: "Ты мудзіла,
здраднік, фашыст, хахол!

Ты бандэрлог нярускі,
вораг Сьвятой Русі!
Больш не прасі закускі
і бухла не прасі!"

Дзед адказаў: "Ня трэба
нам гэта ўсё й задарма,
у вас ні сала, ні хлеба,
ні смачнай гарэлкі няма.

Кажаш: "Крым – наш!" Да слова,
скажы, а чый гэта ваш?
Ты ж сам хахол на палову,
а на палову – бульбаш.

Заўтра ж прыйдзеш галодны,
скажаш: "Дзядзька, налі!"
Думаць ня хоча ніводны.
Што зь іх узяць, маскалі!"

Мужык ад гневу стаў сіні.
Сьціснуў шкло ў кулаку.
"Заб'ю за абразу Расіі!"
Я схапіў за руку.

Крычыць: "Бандэраўцы! Сукі!"
Я думаў, прыб'е, ідыёт.
А ён вырывае рукі…
і ўцякае за плот.

Дзед атрасае кашулю.
Драпіна на брыве.
"Слава Ўкраіне, дзядуля!"
Дзед адказаў: "Жыве!"

# Футбол

Мне ўключылі канал “Россия”,
я ж хацеў футбол па БТ.
Мне гавораць: “Пуцін – мэсія!”
Я ў адказ: “Наперад, “БАТЭ”!”

Я гляджу, бо заўжды быў фанатам,
а з экрану нейкі казёл
абазваў мяне меншым братам.
“Хто тут меншы? Давай у футбол!

Не баімся, прапагандоны,
вашых жартаў пра танны газ.
Мы згуляем ад абароны
і заб’ем у асноўны час”.

Ідэоляг праходзіць па краю
з панславянскай ідэяй, гад!
Ды са мной жартаваць ня раю:
я сьцялюся й раблю падкат.

Наш супернік гуляе бяз правіл,
карыстаецца каратэ,
але з намі Мандэла і Гавэл,
і Махатма Гандзі з “БАТЭ”!

Зараз я пакажу гэтым фрыкам –
атрымаюць за ўсё, што было!
Узьлятаю і з гучным крыкам
галавой б’ю: “Пуцін –...”
Табло
пераможным сьвеціцца лікам.
І ў вачах маіх гасьне сьвятло.

...Ачуняў у вар’ятні ў стрэсе.
Хтосьці ў ложак прынёс матэ.
Прыглядаюся: Леа Мэсі
ў жоўта-сіняй форме “БАТЭ”.

# Зорка

Яна пагрукала мне ў чат
і паказала здымкі:
найпрыгажэйшая зь дзяўчат
сама ішла ў абдымкі.

Я разбаўляў яе, як сьпірт:
а што, калі путана?
Сказала, тролячы мой флірт,
што ў званьні капітана.

Што папік мае быць старым,
як старажытны Кракаў.
Я абяцаў ёй Рым і Крым,
хоць грошай кот наплакаў.

Я разгайдаў зямную вось,
дастаў ёй зь неба зорку,
рахунак засьвяціў – і вось
на нарах плачу горка.

На допыт прывялі, а там –
бяда мая і гора…
– О, капітан! Мой капітан!
– За вас далі маёра!

# Мая міліцыя

Ёсьць мужык,
што ня роўня мне, мужыку.
Ён і я – вельмі розныя мальцы.
Бо захоча – катае мяне ў варанку,
а захоча – катае мне пальцы.

Мне вось цяжка,
зашмат спакусаў наўкол:
страшна ўзяць у жанчыны яблык,
бо на правым плячы сядзіць мой анёл,
а на левым сядзіць мой д'яблік.

А тым хлопцам добра.
Прымуць па дзьвесьце –
і лягчэй выконваць законы.
Бо анёлу з д'яблам няма дзе сесьці,
на абодвух плячах – пагоны.

# Абмен

Ёсьць у нас азёры і рэкі,
ёсьць балоты і ёсьць лугі,
ёсьць у нас камітэт бясьпекі,
сэрцу нашаму дарагі.

Моладзь ёсьць, каб служыць у войску.
Ёсьць сярпы й пад сярпом каласы.
Пчолы соты будуюць з воску.
“Мілавіца” шые трусы.

Ёсьць мачанка й дранікі ў місе,
суп з грыбамі, бо ёсьць лясы.
Нават выбарчыя камісіі
чэсна лічаць нам галасы.

Касманаўты ёсьць, алканаўты,
разьліўное піва і квас…
Толькі вось малавата нафты
і ніяк ня знойдзецца газ.

Гэй, славяне, па чым у вас нафта?
Колькі зьніжка братам на газ?
Мы ж за нафту ўвойдзем у НАТА
і развалім знутры Эўразьвяз!

А давайце мяняцца, ладна?
Будзе выгадна двум бакам:
вы нам – нафты вашай бясплатна,
мы вам – наш Цэнтарвыбаркам.

Вы нам – газу бясплатна, а мы вам –
трохі станікаў і трусоў,
плюс дасье КДБ – адным зьлівам…
Падтрымайце беларусоў!

Кожны шмат наварыць, накосіць…
Што? Ня трэба? Наша цана
не пасуе? Чаму? У вас досыць
і ў саміх такога… казачнага багацьця?

## Паўтарэньне

Чалавек усё-ткі ўпартае стварэньне,
зь першай спробы разумець ня маем сілаў,
патрабуем паўтарэньня, паўтарэньня –
для дэбілаў,
для дэбілаў,
для дэбілаў…

Зноў будуюць, – мірны атам ім у вочы! –
наступаючы на тыя ж граблі двойчы.
Дваццаць восем год з пухлінаю на горле
паўтараем:
каб ня ўмёрлі!
каб ня ўмёрлі!

Зубы выпадуць – больш месца будзе іклам,
а ўсёй дурасьці – ня выразіць у словах!
Наступаць на граблі двойчы стане звыклым,
каб дайшло
да дзьвюхгаловых
безгаловых.

∞

На восьмага сакавіка
згадаю званьне мужыка.
Набуду жонцы піва й кветак –
парадую і так, і гэтак!
Куплю білеты на футбол,
каб не нудзіўся мой анёл!
Зганяю – так і быць! – у краму,
пакуль яна віншуе маму.
Не буду мацюкацца, не!
Хіба што першая пачне.
Каб не вініла ў раўнадушшы,
пачышчу боты, зубы й вушы,
прыму сто грам і цёплы душ,
узорна-паказальны муж!
Надзену сьвежую кашулю –
і жонка, чысьцячы цыбулю,
стрымаць ня зможа чулых сьлёз,
бо надта ж добра зьвёў нас лёс!
І я ня здолею ўстрымацца:
быць мужам – гонар, але й праца!
А потым сьвята праміне
і жонка перад сном шапне:
“Як файна, што мужчына дома!”
Я пазяхну й скажу: “Вядома”.

# Кантра-бандысты

Покуль цёмна, покуль ціха,
Па траве паўзе смаўжыха,
З падарункамі смаўжу,
Празь дзяржаўную мяжу.

Тут - памежнік: “Вось сустрэча!
Што вязеш? Якія рэчы?”
А яна яму: “Каўбой,
Ўсё сваё нашу з сабой”.

Паглядзеў ён на валізкі:
Рэчаў шмат і шлях няблізкі,
І смаўжыху ўсім на зьдзіў
Без агляду прапусьціў.

І назад да бабы Ванды
З поўным мехам кантрабанды
Прапусьцілі на мяжы…
Ну, чаму мы не смаўжы?!

# Чорны сьпіс

Крошка-сын вялікага тату
запытаў, і тата завіс:
– Раскажы мне, толькі бяз мату,
ці існуе ў нас чорны сьпіс?

– Уяві, сынку, дрэнь такую:
ты пісьменьнік, але цябе
ні “Зьвязда”, ні “ЛіМ” не друкуе,
ні, тым больш, “Савецкая Б.”!

Іншы прыклад чорнага сьпісу:
журналістцы (якой – не скажу)
не далі шэнгенскую візу:
хто праўладны – хрэн за мяжу!

А адну прынцыповую даму,
што ў газэтах рэжым дастае,
на дзяржаўнай мяжы таксама
завярнулі, але свае.

Ліцэістка, амаль багіня,
ўсіх сваіх здала на судзе,
і цяпер без шэнгену гіне –
з аквалангам у Хургадзе.

Хітра лёсы перапляліся,
і ня сьцяміш, дзе верх, дзе ніз:
хто за бацьку – у чорным сьпісе,
супраць бацькі – таксама ў сьпіс.

Хтось пытае:
– Ты ўсё яшчэ ў сьпісе?
– Адчапіся!
Ды ўсё дарма.
– Ці ты ў чорным сьпісе? Каліся!
– Ў нэкралёгах пакуль няма.

# Хакей

Ганьба! Ўсім павырываю гланды!
Б'юць на лёдзе нашых маскалі.
Прэзыдэнт ірвецца да каманды:
Я ПРЫЙШОЎ, КАБ ВЫ ПЕРАМАГЛІ!

# Эпілёг

Вось герой нашых баек і мыладрам,
пан сахі і лазэрнай мышы.
Мае храм, пару крам, сто грам, інстаграм,
бас-гітару й любоў да цішы.

Пазнавальны – інтэлігент або мент,
мамчын сын ці боўдзіла з вуліцы.
На ўсіх мовах мае той самы акцэнт,
чырванее ды вечна сутуліцца.

Бо, ня маючы ў сьвеце іншых радзім,
пару крыл расьціць за плячыма:
калі ўсе мы разам
у прорву
ляцім,
без надзейных крыл немагчыма.

# ДэЛёс
## Біяграфія

Кажуць, ДэЛёс – псэўданім
(каб за сатыру ня помсьціў рэжым),
ды сам знакаміты мастак
тлумачыць, што гэта ня так.
Ягоны далёкі продак між пушчаю і балотам
ад войска Напалеона адстаў. Лічыце яго патрыётам!
Нашчадак праз два стагодзьдзі
стаў маляваць на “Свабодзе”.
Пачаў маляваць раней, чым пайшоў.
Суседзі зьбягаліся, каб паглядзець гэта шоў,
а ён, замест соскі і Барбі,
прасіў аб алоўку, паперы і фарбе.
Цяпер у яго за плячыма
карыкатуры на ўсё, што магчыма і немагчыма.
Настолькі валодае чорным гумарам,
што ані з кім ня дзеліцца мэйлам і нумарам.
Прагне быць ананімным.
Малюе нікому і ўсім нам.



## ДаСьлёз
Аўтабіяграфія

Нарадзіўся ў апошні месяц зімы, у Менску, насупраць турмы.
Скончыў з чырвоным дыплёмам дзіцячы садок побач з домам.
Па прыколе вучыўся ў школе. Па-геройску касіў ад войска.
Калі зрок сапсаваў унівэр, стаў пісаць ня горш, чым Гамэр
(той зусім не пісаў, а гэты хоць неяк),
у рытме трамвайных рэек, у гонар дзявочых веек,
пра бацькоўскія шыбы і родны кут. Гэта кніжка – ягоны дэбют.
Перакладаўся на многія мовы, бо google translator – дармовы.
Мае жонку й адно дзіцё. Падазрона любіць жыцьцё.



# Summary

Her pen name “DeLos” (or simply “DL”) is a play on the Belarusian word for fate. She uses it to conceal her real identity because it can be risky for a cartoonist to poke fun at the current Belarus government.

Her “Not So Merry Pictures” – witty takes on the country's socio-political scene - have been a staple of RFE/RL Belarus Service web site (svaboda.org) for the past five years, and have earned her enthusiastic audiences.

In this compilation, DeLos's pictures are accompanied by the verses of the pseudonymous DaSloz.

Yes, the name is almost a perfect rhyme for the cartoonist's, and in Belarusian it means “to tears.”

DaSloz, you see, is actually an accomplished author whose intent is to make audiences laugh until they cry.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —** кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.



**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука**
**паводзінаў.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
554 с.: іл.



**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак
і песень 50
удзельнікаў
аднайменнай
перадачы
Радыё Свабода.
Мультымэдыйны
DVD-дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога**
**дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2010.



*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская**
**Атлянтыда.**
**Кніга другая.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2010. —
352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Сьлед матылька. Освальд у Менску.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.* **Пакуль ляціць страла.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Аўдыёкніга. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.* **Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




Альгерд Бахарэвіч.
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.